# БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ

**пэдагагічны штомесячнік.**

№ 4 (2). | Рыга, люты 1927 году. | Год II.





Футбольны гурток Дзьвінскае Дзяржаўнае беларускае гімназіі.

## У беларускай моладзі не павінна быць настрояў роспачы.

Вучаніца II (VIII-й) клясы Дзьвінскае беларускае гімназіі, Іраіда Зэйгліш, 18 гадоў, 14 лютага атруцілася мыльным камням. Прамучыўшыся 2 дні, І. Зэйгліш 16 лютага памёрла ў Дзьвінскай бальніцы, а 18 лютага была пахавана.

Самагубца тлумачыла свой крок тым, што ёй цяжка было вучыцца, бо і матарыяльнае становішча бацькоў кепскае, ды і сама нябожчыца кепска была падрыхтавана і ня мела посьпехаў у навуцы.

Аб нябожчыках, за-звычай, ня кажуць нічога кепскага. Ня хочамо і мы крыўдзіць памяці І. Зэйгліш. Аднак, ня можамо не зазначыць, што гэты першы выпадак самагубства ў шэрагах нашае падрастаючае моладзі, на якую мы ускладаем гэткія вялікія надзеі, наводзе нас на вялікі сум.

У гэтым учынку мы бачым слабавольле і роспач, няўменьне і нежаданьне змагацца за палепшаньне сваёй долі і долі беларускага народу.

Жыцьцё кождага беларускага інтэлігэнта належыць не яму, а народу беларускаму. Моладзі трэба напружываць усе свае сілы, каб і сабе пракласьці шлях да лепшае будучыні і сваіх братоў выцягваць з цемры і бядоты.

Хай зямля будзе пухам для нявшчаснай палахлівай Рыты Зэйгліш, але хай нікога з нашае моладзі не пужае жыцьцё і змаганьне!

Не адны пахучыя кветкі растуць на нашым беларускім шляху, шмат маемо мы рожных недахопаў, перашкод і ворагаў. Зьвязвае нас па руках і нагах наша незаможнасьць, аднак не павінны мы схіляць сваёй галавы перад перашкодамі і няўдачамі. Адважна павінны мы ісьці ўперад, да лепшае долі.

І ў гэтым нашым змаганьні, у гэтым беларускім адраджэнчым Крыжовым Паходзе, беларуская моладзь, з запалам адданасьці, з вясёлай усьмешкай і адважным поглядам,—павінна быць заўсёды наперадзі!

**К. Езавітаў.**

# Зацьверджаньне новае беларускае школы.

Міністр Асьветы, гр. Райніс-Плекшан, зацьвердзіў статут „Беларускае прыватнае дадатковае школы Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“.

Школа гэтая адчынілася на Чырвонай Дзьвіне ў Рызе і мае сваёй мэтай абслугоўваць беларускую працоўную моладзь, якая не змагла ў сваім часе закончыць сваю пачатковую асьвету.

Большасьць гэтае моладзі, узростам ад 17 да 23 гадоў, па незаможнасьці і іншым абставінам жыцьця, змушана была кінуць некалькі год таму назад школу і шукаць сабе працы. Цяпер, працуючы на фабрыках, заводах і ў рожных прадпрыемствах, моладзь гэтая вайстра адчула як шкодзіць ёй тое, што яна ня мае закончанае, хацяж-бы і пачатковае, адукацыі. Дзе-хто хоча атрымаць пасьведчаньне аб сканчэньні пачатковае школы, каб паступіць у іншыя школы.

Падрыхтоўчыя заняткі з моладзьдзю гэтаю вяліся яшчэ з восені, а цяперака, з 15 лютага, школа прыступіла ўжо да сыстэматычнае працы. Лекцыі адбываюцца ўвечары з 18 гадзін 40 хвілін да 22 гадзінаў.

Ніякіх дапамогаў ні ад гораду ні ад Ураду школа на сваю арганізацыю яшчэ не атрымала, але „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ мае надзею, што нейкая дапамога на гэтую вельмі карысную школу ўсё-ж-ткі будзе дадзена.

**Кастусёнак.**

# 5-цігодзьдзе Люцынскае беларускае пачатковае школы.

15-га лютага Люцынская беларуская пачатковая школа адсьвяткавала 5-цігодні юбілей свайго існаваньня.

З гэтага повіаду адбылося ўрачыстае паседжаньне Школьнае і Педагагічнае Рады, на якім былі прысутны бацькі, вучні і настаўнікі школы, а таксама і кіраўнік Беларускага Аддзелу гр. У. Пігулеўскі.

З кароткага агляду працы гэтае беларускае школы, высьвятлілася надзвычайна важная роля яе для беларускага жыхарства ў Люцыне. Беларусы ў Люцыне складаюць самую незаможную частку насельніцтва: у большасьці гэта беззямельнае сялянства, пайшоўшае ў горад на заробкі, ёсьць мястовае люцынскае мяшчанства і рамесьнікі, якія ніяк ня могуць аправіцца пасьля вайсковае завірухі і рожных эвакуацыяў і акупацыяў, ды ня мала ёсьць і былога „служылага“ люду, які цяперака сядзіць без пасадаў, бо ня ведае латыскае мовы.

Дзеці, большасьці з гэтых беларусаў, да адчыненьня ў лютым 1922 году сваёй беларускай школы, зусім ня мелі магчымасьці вучыцца. Ня было ў іх ні вопраткі, ні абутку, ні грошы на сшыток і кніжкі, а шмат хто з дня-ў-дзень рэгу-

лярна галадаваў. Беларуская школа, пачынаючы з лютага 1922 году, йшла ўсім гэтым дзецям чым тольκі магла на спатканьне. Вечарынамі, латарэямі, працэнтнымі адлічэньнямі ад пэнсыі настаўнікаў зьбіраліся грошы на сшыткі, кніжкі і гарбату для вучняў; шмат каму даваліся вопратка і абутак. Аб тым, як выглядалі беларускія дзеці ў 1922 годзе, паступаючы ў школу, найлепш гавора зьмяшчаемая тутака фатаграфія аднаго з клясаў гэтае школы.



**Група вучняў II клясы Люцынскае беларускае пачатковае школы з вучыцелем М. Я. Івановым на чале, у пачатку арганізацыі школы ўзімку 1922 году.**

За пяць гадоў працы, школа зрабіла ўжо некалькі выпускаў і яе выхаванцы вучуцца ўжо ў беларускай гімназіі ў Дзьвінску. Нават і тутака, у гімназіі, адчуваюць выхаванцы Люцынскае школы клапатлівую ўвагу сваіх настаўнікаў і Школьнае Рады сваёй школы: настаўнікі і Школьная Рада падтрымоўваюць сваіх выхаванцаў і ў гімназіі, плоцючы за іх плату за навучэньне і дапамагаючы ім у аплаце інтэрнату.

Ад імя Міністра Асьветы і ад імя Беларускага Аддзелу школу вітаў гр. У. Пігулеўскі. Агалошаны былі прывітаньні старшыні „Т-ва беларускіх вучыцялёў у Латвіі“ гр. К. Езавітава і дырэктара Дзьвінскае беларускае гімназіі С. Сахарава. Міністру Асьветы Я. Райнісу-Плекшану ад прысутных паслана прывітальная тэлеграма.

**Люцынец.**

# На чым трымаецца «польскасьць» у Латвіі.

Мы ўжо шмат разоў адмячалі, што польскія абшарнікі ў Латгаліі і Ілукшчыне, а таксама і ксяндзы-палякі, якіх у гэтай мяйсцовасьці заўсёды было вельмі многа, займаліся, а некаторыя і да гэтага часу займаюцца, абпалячываньнем мяйсцовага малапісьменнага жыхарства.

Беларусам-каталікам, а таксама каталікам-латгальцам і ліцьвінам штодзённа ўбіваецца ў голаў, што „калі ты каталік, дык тым-самым ужо і паляк“.

І да гэтага часу ёсьць такія беларускія сяляне, што гэтаму веруць,

і, будучы з прадвеку беларусамі і часта-густа ня ведаючы, нават, ніводнага слова па-польску, усё-ж-ткі, паслухаўшыся панска-ксяндзоўскіх нагавораў, лічуць сябе палякамі.

Горш за ўсё, што некаторыя з такіх сялянаў ня толькі лічуць саміх сябе палякамі, але актыўна дапамагаюць польскім панам абпалячываць і іншых сваіх вяскоўцаў.

Калі-ж свае браты, аднавяскоўцы-беларусы, і суседзі па хатах пачынаюць іх навучаць і кажуць што ўсе беларусы павінны трымацца свайго роднага, беларускага, дык гэтыя несьвядомыя здраднікі свайго народу ў сваё апраўданьне такое гаворуць, што аж сьмех.

Адзін кажа, што „польская мова далікатнейшая за беларускую, і той, хто гавора па-польску, больш падобны да пана“.

Другі кажа: „Польскую мову і ў касьцёле ўжываюць, каб маліцца, бо калі молюцца па-беларуску, дык Бог ня чуе гэткіх маленьняў“.

Трэці кажа: „Сам Бог ня любіць беларускае мовы, а патрабуе польскае, дык знача паляком быць лепей, чым беларусам!“

Во, наслухаўшыся гэткіх гутарак ад касьцельных дэвотак, і ідуць некаторыя сяляне, сьледам за сваімі бабамі, „у палякі“.

Нейкая сьмешная хвароба „на панства“.

* * *

У нашай гміне залажылі прыехаўшыя з Дзьвінску польскія панкі свой „Зьвёнзак“.

І што-ж вы думаеце, хто быў абраны за старшыню?

— Ды, зразумела, наш тутэйшы беларус!

У нас тутака большасьць беларусаў, ёсьць і чатыры вёсцы ліцьвінаў, а палякоў запраўдных; дык і зусім няма.

А вось, глядзі-ж ты, пад самым касьцёлам утварыўся „зьвёнзак“.

І ідуць туды несьвядомыя беларусы на сваю нацыянальную загубу.

Зьвярнуўся я гэтымі днямі да нашага новаабранага старшыні „зьвёнзку“ і пытаюся: „Што-ж ты, братка, робіш? Чаго-ж ты з палякамі зьвязаўся?“

А ён мне і адказвае: „Як кінем польскі язык, дык тады кінем і касьцёл!“

І сьмех і грэх.

І шкода такога чалавека і гнеў бярэ.

Не разумее ён таго, што ўсе найвялікшыя каталіцкія сьвятыя зусім ня ведалі польскае мовы. Ня ведае таго, што японцы, гэрманцы, французы, італьянцы, харваты, чэхі, кітайцы і вухам ня чулі польскае мовы, — молюцца ў касьцёлах на сваёй кітайскай, або нямецкай, ці чэскай мове, шануюць сваю мову і свой народ, а цераз гэта дабіліся і да сябе пашаны ад іншых народаў.

Ці не пара і нам узяцца за розум, браты?

**Ізабелінец.**

# Да гісторыі Келаўскае пачатковае школы.

У 1922 годзе ўвосені, робячы, згодна загаду Прыдруйскае валасное Рады, перапіску рабят школьных гадоў у раёне Шнёкаўскай школы, знайшоў я ў вёсцы Келаве каля 45 дзяцей школьнага ўзросту.

На маю прапазыцыю пасылаць дзяцей да мяне ў Шнёкаўскую школу, сяляне адмовіліcь, бо далёка, а дзеці блага адзеты і абуты, па беднасьці, і хадзіць за некалькі вёрст у Шнёкава ня могуць. Прасілі келаўцы, каб дапамоч ім якколечы адчыніць сваю школу ў Келаве.

Былі састаўлены сьпіскі дзяцей і належная просьба, з якой прадстаўнікі бацькоў паехалі да павятовай Школьнай Рады і да Інспэктуры.

Аднак, першыя захады бацькоў посьпеху ня мелі.

Пасьля гэтае няўдалае спробы, бацькі, якім шкода было глядзець на бедных дзетак, што бадзяюцца бяз школы, некалькі разоў зноў падымалі справу аб адчыненьні ў Келаве беларускае школы. Пісаліся новыя просьбы і сьпіскі, ездзілі дэлегаты і пасылаліся просьбы поштай і да Павятовай Школьнай Рады і ў Беларускі Аддзел, але адчыніць школу так ці інакш, усё адмаўлялі.

Выходзіла, часам, вельмі дзіўна: калі дазваляў адчыніць школу павет, дык ня было згоды ад валасьці; а калі дазваляла валасьць — у павеце было запозна.

Маючы справы ў сваёй школе (Шнёкаўскай), я перадаў усе справы па адчыненьню школы гр. Ант. Клагішу. Ен, як болей вольны, бо ня меў пасады, узяўся за справу болей энергійна: ездзіў некалькі разоў у Дзьвінск, хадзіў у гміну, зьвяртаўся да Беларускага Аддзелу і паасобных дзеячоў за дапамогай. Урэшце, у 1925 годзе, на чацьвёрты год, дабіўся ён згоды ўсіх установ на адчыненьне ў вёсцы Келава беларускае школы. Бацькі, просючы школы, абралі настаўнікам у ёй А. Клагіша, але чамусьці ён ня быў прызначан у гэтую школу, хаця шмат паклаў сіл і працы па адчыненьню яе, а нават, меў асабістыя выдаткі на падарожжа і іншае.

Школа была адчынена, як школа Агульнага Дэпартамэнту і кіраўніком яе быў прызначан М. Талерка, якога перавялі сюды з Шнёкаўскай беларускай пачатковай школы*).

Келаўская школа сябе апраўдзіла. Праз два тыдні ў яе сьцянох сабралася ўжо каля 90 дзяцей. Прышлося наймаць другое памешканьне і дамагацца прызначэньня другога настаўніка. Гэта таксама аказалася справай ня лёгкай. Толькі пасьля Каляд павет адважыўся камандыраваць другога вучыцеля, гр. Арона, у школу.

У першы год істнаваньня ў школе былі толькі першыя тры малодшыя клясы.

Новая школа была адчынена ў чатырох пустых кутох. Парты рабілі самі вучні, ці іх бацькі. Вучыцель з ложка, з дапамогай сялян, зрабіў клясовую дошку.

Кніжкі і некаторыя школьныя дапамогі былой Шнёкаўскай беларускай школы, згодна загаду валасьці, перавезены былі ў Келаўскую школу, бо урадовая школа, адчыненая ў Індры замест Шнёкаўскае, мела значныя субсыдыі на абарудаваньне, мела і мае асобны урадовы буджэт і залежа не ад паветаў і валасьці, а безпасярэдна ад Міністэрства Асьветы.

Дзіўна было тое, што ня ўся маёмасьць зачыненае Шнёкаўскае школы была перададзена ў Келаўскую школу, бо Шнёкаўская школа была ў ведзеньні валасьці (pašvaldības) і валасьць павінна была ня частку, але ўсю маёмасьць школы перадаць сваёй новаадчыненай школе.

Аднак, нават, атрыманьне кніжок і школьных дапамогаў з Шнёкаўскае школы ў Келаўскую, урадовая Індраўская школа лічыла маім самаўласным захватам маёмасьці зачыненае школы і скардзілась адпаведным уладам. Справа даходзіла да Рыгі, выяжджаў інспэктар павятовых школ, але падручнікі і школьныя дапамогі ўсё-жткі асталіся ў Келаўскай школе, бо ў Шнёкаўскую школу гэтыя кнігі і дапамогі былі дадзены ў сваім часе Беларускім Аддзелам з коштаў буджэту беларускае меншасьці.

Цяперака заняткі ў Келаўскай школе ідуць добра, хаця-ж атры-

*) Шнёкаўская школа, пасьля пераводу з яе М. Талеркі была перароблена ў школу Агульнага Дэпартамэнту і перанесена ў м. Індру, дзе цяперака з яе зроблена дзяржаўная латыская школа.

моўваю весткі аб тым, што нехта, з уладу маючых мной незадаволены і мяне хочуць з гэтае школы кудысьці „перавясьці“.

**М. Талерка.**

Кіраўнік Келаўскай школы.

Ліпень, 1926 году. Келава.

**Ад Рэдакцыі.** Чуткі, аб якіх пісаў вучыцель М. Талерка спраўдзіліся: гэтага энэргійнага беларускага настаўніка, па невядомым нам матывам, перавялі ў іншую школу, хаця-ж у Келаве ён быў зусім на сваім мейсцу.

# Наша бліжэйшая нацыянальная задача.

Жыцьцё кожнае нацыі, кожнага дзяржаўна-самастойнага, а таксама і залежнага ад суседзяў, народу, разьвіваецца ў трох галоўных кірунках: культурна-прасьветным, палітычным і эканамічным.

Першыя працаўнікі нацыянальнага адраджэньня беларускага народу добра зразумелі значэньне першых двух з гэтых кірункаў для беларускага руху і многа ў гэтых кірунках працавалі, за тое, на вялікі жаль, дужа мала зьвярталі яны ўвагі на працу ў кірунку эканамічным. Праца ў галіне эканамічнай часта-густа зусім не вялася.

Некалькі дзясяткаў гадоў ад пачатку нашага адраджэнчага руху былі выключна ахвяраваны культурна-прасьветнай працы: зьбёрам народных твораў, народнаму слоўніку, досьледам гісторыі беларускага народу, апрацоўцы народнае мовы ў ступень мовы літэратурнае і, нарэшце, стварэньню нова-адраджэнчае беларускае літэратуры, абапёртае на народным грунце. Паралельна з усёю гэтаю працаю ішла праца над нацыянальным усьведамленьнем беларускае інтэлігэнцыі і ўсьведамленьнем вясковых мас.

У выніку нацыянальна-культурнае працы зьявіліся дужа багатыя зьбёры беларускае народнае творчасьці, вельмі значныя і паважныя працы аб беларусох у мовах расейскай і польскай і, што самае галоўнае, нарадзілася самастойная беларуская літэратура, вельмі прыгожая, здаровая маральна і арганічна—зьвязаная з народнаю глебаю, ад якой яна чэрпае сваю жыцьцёвую праўду і дужасьць. Сьледам за літэратурай, прыйшоў музыкальна-гарманізаваны народны сьпеў, нацыянальны тэатр, нацыянальная пачатковая і сярэдняя школа і, нарэшце, залажана нацыянальная вышэйшая школа.

Праца ў культурна-прасьветным кірунку яшчэ ня скончана, ды й ня можа быць ніколі скончанай, бо кожнае новае пакаленьне, нават кожны стары працаўнік, вучоны, і пісьменьнік, і мастак, у кожны новы год, або перыяд сваей працы, дае новы ўклад у скарбніцу беларускае культуры, пашырае навуковы досьлед, абагачае літэратуру, ажыўляе тэатр і музыку. Праца тутака ня скончана, але можамо ўжо сказаць, што яна **наладжана**, пастаўлена на моцны грунт і будзе разьвівацца далей,—біскучы развой нацыянальна-культурных беларускіх здабыткаў **ужо забяспечаны.**

**Палітычная** праца ў беларусаў пачалася куды пазьней за культурна-прасьветную. Толькі каля 1900 году бачымо мы першую беларускую палітычную партыю—„Сацыялістычную Грамаду“. Аднак, дзьве расейскія рэвалюцыі, выклікaныя дзьвюма няўдалымі войнамі і няўдалым урадаваньнем Мікалая II, разштурхалі беларускія народныя масы; агульны-жа ўзрост нацыянальных рухаў ўва ўсім сьвеце і прыклады бліжэйшых суседзяў — аканчальна абудзілі беларускі народ і выклікалі ў ім магутны водгук. Беларускі палітычны рух пай-

шоў з не чаканай быстрынёй і, праз якіх два дзясяткі гадоў палітычнае працы, здолеў набраць ужо гэтулькі моцнасьці, што не пажадаў абмяжовываць сябе куцымі адзнакамі народнае вольнасьці, ні ў форме скромненькае нацыянальна-культурнае аўтаноміі, ні ў форме больш шырокае аўтаноміі нацыянальна - тэрыторыяльнае, а проста і адважна падыйшоў да ідэі поўнае нацыянальнае незалежнасьці.

Тутака няма мейсца дзеля падрабязнага разгляду таго шляху, якім прыйшоў Беларускі Народ да сваёй дзяржаўнасьці. Даволі будзе канстатаваць, што **сваю дзяржаўнасьць ён ужо мае.** Тое, што яшчэ ня ўсе беларускія абшары аб'еднаны каля аднаго палітычнага цэнтру, **ёсьць** толькі **пытаньне часу.**

Зусім ня так стаіць праца ў трэцім кірунку беларускага нацыянальнага жыцьця, у **кірунку эканамічным.** Тутака зроблена вельмі мала, блізка-што зусім нічога ня зроблена. Беларускіх сельска - гаспадарскіх таварystваў да ўсясьветнай вайны 1914-18 году ня было, а калі і былі нейкія сельска-гаспадарскія таварыствы „на Беларусі“, дык яны знайходзіліся або ў расейскіх, або, і гэта найчасьцей, у польскіх рукох, і прыслугоўвалі інтарэсам вялікага абшарніцтва, якое ставілася варожа і да беларускага сялянскага народу і да беларускага нацыянальнага руху. Беларускіх прыватных гандляроў, з больш-менш значным капіталам і абаротам, а таксама і вялікіх каапэратыўных прадпрыемстваў — не было. Дзясятак-другі дробных гандлярчыкаў, ці некалькі каапэратыўчыкаў,—у рахубу ісьці ня могуць. Прыватны гандаль на Беларусі найбольш знаходзіўся ў рукох жыдоўскае буржуазіі, а справа каапэратыўная — у рукох палякаў. Вытворчая прамысловасьць на Беларусі была невялікая, куцая і зноў-жа — цалком знайходзілася ў чужых рукох. Капітал, ускормлены на беларускай глебе і пакалупаны мазалём беларускага сялянiна і рабочага, выплываў з Беларусі ў суседнія старонкі і дзьвігаў прамысловасьць Лодзі, Варшавы і іншых чужых гарадоў, прыбіраючы вуліцы гэтых гарадоў новымі новымі прыгожымі будынкамі, папаўняючы іх гулам аўтамабільных ражкоў.

Усё, сказанае аб эканамічным боку жыцьця беларусаў у Беларусі, таксама можна сказаць і аб эканамічным жыцьцю і становішчы нашае меншасьці ў Латвіі. Трэба будзе толькі дадаць, што і ў Радавай Беларусі і ў Заходняй Беларусі, акупаванай палякамі, беларусы ўжо ўзяліся за эканамічную працу і пасьпелі дзе-што зрабіць, а наша меншасьць у Латвіі яшчэ нічога не зрабіла для свайго згуртаваньня на эканамічным грунце.

Сюды, у гэты бок нацыянальнага жыцьця, павінны цяперака накіравацца ўсе здольныя сілы беларускае інтэллігэнцыі і шырокіх колаў народу. Сюды павінна скіравацца адраджэнчая думка і праца, каб запоўніць тую дзіру ў нашым нацыянальным руху, якая ўжо сдаўна сіроцкі сьвеціць, мазоліць вочы і студзіць наш народ эканамічнай галітою. **Трэба выклікаць нацыянальны рух і ў кірунку эканамічным.** Гэта і ёсьць наша бліжэйшая нацыянальная задача.

Наша беларускае настаўніцтва, якое ў Латвіі зьяўляецца кіраўніком нацыянальнага жыцьця беларускае меншасьці, павінна зьвярнуць увагу на эканамічнае пытаньне і аддаць частку сваіх сіл, здольнасьцяў і часу на працу ў галіне каапэратыўнай.

Трэба ўзяцца за стварэньне бе-

ларускіх спажывецкіх каапэратываў. Трэба закладаць сяброўствы па вырабу масла, па прадажы яек і млека. Трэба гуртавацца ў аб'еднаньні, якія маглі-б супольнымі сродкамі ўскладчыну купляць лепшыя сельска-гаспадарчыя прылады і машыны. Трэба, нарэшце, браць у свае рукі ўжо істнуючыя ў некаторых беларускіх валасьцёх крэдытныя таварыствы, а дзе іх няма — закладаць новыя. Зразумела, цяжка нашаму настаўніцтву адрывацца ад штодзённай школьнай працы, але пры добрым жаданьні, — нічога немагчымага няма, і настаўніцтва наша зможа дапамагчы сялянству ў вёсцы і працоўны у горадзе наладзіць свае каапэратыўныя арганізацыі.

Каб даць беларускаму настаўніцтву матарыял для асабістага знаёмства і разбажаньняў, а таксама і для гутарак і лекцый сярод беларускага сялянства і працоўных, мы адчыняемо ў „Беларускай Школе ў Латвіі“ і ў „Голасе Беларуса“ асобны аддзел аб каапэрацыі. Аддзел гэты распачнецца друкаваньнем „Папулярных вочаркаў па тэорыі каапэрацыі“ — Пажытнова. Гэты „вочаркі“ зьцяўляюцца першаю спробаю даць падручнік па каапэрацыі для ўсіх пачынаючых каапэратараў. Маемо надзею, што беларускае настаўніцтва і працоўныя, і граматнае сялянства з посьпехам выкарыстаюць „вочаркі“ для сваёй практычнай працы.

**К. Езавітаў.**

## Спэкулююць нават на самагубстве вучаніцы.

У зьвязку с сумным здарэньнем самагубства вучаніцы Дзьвінскае беларускае гімназіі Іраіды Зэйгліш, расейская прэса і паасобныя адзінкі пачалі распушчаць рожныя чуткі і зьвягу на настаўнікаў гэтае гімназіі.

Зусім зразумела, што гэтая зьвяга ня мае пад сабой грунту, а пашыраецца яна таму, што гэтым панам вельмі пажадана і патрэбна падарваць аўтарытэт нашай гімназіі, якая ў Дзьвінску лічыцца аднэй з лепшых.

Атруцілася вучаніца І. Зэйгліш, не з-за кепскіх вучыцялёў, як гэта піша расейская прэса, а таму што ейнае і бацькоў яе матарыяльнае techновішча было дужа дрэнае і яна ня мела магчымасьці вучыцца далей.

Як кажуць яе сяброўкі па школе, вучаніца Мацьвеенка і Сідарэнка, дык І. Зэйгліш ужо даўно мела думку скончыць жыцьцё самагубствам. Яшчэ ўлетку 1926 году яна зрабіла спробу атруціцца ў хаце сваіх бацькоў, але асталася жывою.

Такім чынам у І. Зэйгліш ужо даўно псыхіка была не нармальнай, і дзеля гэтага не прыходзіцца казаць аб тым, што яна атруцілася па віне вучыцялёў, або з поваду абразы зробленай настаўнікам.

Адна з расейскіх газэт напісала нават, што, нібыта, адзін з вучыцялёў сказаў І. Зэйгліш перад самагубствам: „Вы, Зэйгліш, далей прачкі ня пойдзеце!“

Гэтая злосная хлусьня і перакручваньне паноў з праціўнага нам буржуазнага лагеру мае мэтай спэкульнуць на няшчасным здарэньні з аднэй з нашых вучаніц і, карыстаючыся фактам самагубства, абліць брудам добрае імя нашае гімназіі ў Дзьвінску.

**Дземенскі.**

Дзьвінск, 25 лютага 1927 г.

# МЭТОДОЛЁГІЯ і ПРАКТЫКА.

## Праца Станькаускай школы 4-х годкі за 1-е паугодзьдзе 1925-26 навуч. г.

(Канец).

**Трэці комплекс: Наша вёска.**

Плянаваньне працы, разьмеркаваньне вучняў для зьбіраньня неабходных статыстычных і бытавых ведаў і экскурсія занялі 2 дні.

Тэмы комплексу:

1. Характар паверхні (школьнага раёну).
2. Клімат.
3. Расьліннасьць і жывёлы.
4. Сыстэма гаспадаркі ў вёсках нашага школьнага раёну і формы землякарыстаньня.
5. Галоўныя і падсобныя заняткі жыхарства ў залежнасьці ад прыроды, клімату і культуры.
6. Вёска ў часы прыгону, царызму і цяпер.
7. Эканамічнае становішча вёсак цяпер і якое яно можа быць у залежнасьці ад культуры.

Матар'ялам да пісаньня ў гэтым комплексе было наступнае: да 1-й тэмы—Апісаньне экскурсій; Якую карысьць дае камень і скуль ён узяўся;

да 2-й і 3-й тэмы—Значэньне вады для чалавека, жывёл і расьлін;

да 5-й — Скуль наш селянін бярэ сродкі да жыцьця? Дзе ляпей будавацца?

да 7-й — Што аддае наша вёска і што атрымлівае.

Для замацаваньня растлумачаных граматычных правіл даваліся практыкаваньні.

Да чытаньня вышэйадзначаным тэмам служылі наступныя артыкулы і вершы:

„Як мы вывучаем нашу вёску“.
„Ведай, сьвет“—верш.
„Адкуль камяньні на палёх“.
„Клімат і атмасфэрныя ападкі“.
„Прыстасаванасьць расьлін і жывёл да клімату“.
„Гаспадарка пановаму“.
„Карысьць суполкавых гаспадарак“.
„Як у вёсцы суполка зьявілася“.
„Улада земляроба над зямлёй“.
„Чаго трэба расьлінам“.
„Як людзі кормяць і пояць зямлю“.
„Балота, возера, рэчка. Земныя пароды і вада на зямлі“.
„Павіншаваньне“.
„За прыгонам“.
„Катаржнікі“ — верш.
„Ня плач, маё дзетка“ — верш.
„Хто з іх лепшы гаспадар“ — верш з газэты.
„Грамадзкія ўстановы“.
„Новае ў нашай вёсцы“.
„Сарочка дарэмна“.
„Доля батрачкі“ — верш.
„ Казачная старонка“,—з падручнікаў Чырвоная Беларусь, Роднае Слова, Пачатковая геаграфія.

Значная частка лічэньня мела добрую сувязь з тэмамі і была пабудавана на маляваньні пляну вёсак школьнага раёну ў маштабе 1 сантымэтр=10 сажням. Зроблен быў падлік насельніцтва, пісьменных і няпісьменных, падлік ураджаю, вылічана (прыблізна) плошча межаў пры церазпалосіцы, буджэт селяніна, каштоўнасьць ураджаю аднэй з сялянскіх гаспадарак і выяўлены найкарысьнейшыя расьліны ў гаспадарцы (бульба); зробен падлік зямлі на кожнага жыхара, скаціны і на ўсё зроблены адпаведныя дыяграмы.

Па грамадазнаўству меў сувязь з тэмамі і быў выкананы наступны матар'ял: Часы прыгону; рэформа

1861 г.; сацыяльнае становішча сялян і пралетарызацыя іх; 1905 год; рэвалюцыйны рух у нашых вёсках і яго вынікі (паша, сенажаці, казакі на варце ў пана — апавяданьні вучняў аб чутым ад бацькоў). Тэмы комплексу: 4-я і 6-я.

Розніца паміж вёскай савецкай, царскай і прыгоннай. Кіраваньне ў савецкай вёсцы (саветы, выбары, права голасу). Культурныя ўстановы ў нашай вёсцы. Клясавы склад жыхарства. Супольныя гаспадаркі: калектывы, таварыствы, сав. гаспадаркі. Гандаль, грошы і гандлёвыя асяродкі. Тэмы комплеку: 5, 6, 7-я.

Праца ад усяго комплексу зафіксавана дыяграмамі эканамічнага і культурнага становішча вёсак, а таксама намалёван плян вёсак школьнага раёну з адзначэньнем у фарбах палеткаў.

Праца на працягу комплексу ва ўсіх галінах навучаньня мела добрую натуральную сувязь.

Краязнаўчы напрамак адбіўся ў заўважаньні вучнямі 1) зьмены рэльефу мясцовасьці, 2) найкарысьнейшых расьлін, 3) небходнасьці пабудовы цагельні і ганчарні; дрэваапрацоўчага заводу альбо арганізацыі калектыву саматужнікаўдрэваапрацоўшчыкаў, 4) арганізацыі распрацоўкі торпы і мэліярацыі балот.

На распрацоўку комплексу патрачана 30 дзён.

**Чацьвёрты комплекс: Вёска і горад.**

Тэмы яго:

1. Эканамічная сувязь вёскі з горадам.
   а) здабываўчая і апрацоўчая прамысловасьць вёскі.
   б) прамысловасьць гораду.
2. Супольнасьць інтарэсаў рабочых і сялян і сувязь паміж імі.
3. Пісьмовая сувязь гораду з вёскай.
4. Адміністрацыйная сувязь.

Да самастойнага пісаньня адпаведна комплексу быў наступны матар'ял:

1) Прамысловасьць вёскі і гораду.

2) Рынкі, кірмашы, значэньне сродкаў перавозу.

3) Значэньне нашае чыгункі і рэчкі для перавозу і галоўныя прадметы перавозу.

Лічэньне будавалася на матар'ялах працы камітэту ўзаемадапамогі, на падліку прадметаў збыту вёскі і завозных тавараў, галоўным чынам праз каапэрацыю; рабіўся падлік сродкаў, якія трацяцца на газэты, часопісі, кніжкі, і разьвязваліся задачы, зложаныя вучнямі пры дапамозе настаўніка.

У зьвязку з тэмамі чыталіся наступныя артыкулы: „Горад“, „Становішча рабочых і сялян пры панох і капіталістах“, „Лес сякуць“, „ На шкляной гуце“, На прадзільнай фабрыцы“—з падручніка „Чырвоная Беларусь“ і артыкулы: „Як людзі плаваюць‘„ „Як людзі езьдзяць“, — з падручніка „Роднае Слова“.

Шляхам гутарак і пытаньняў выяўлены: клясавы склад жыхарства вёскі, роля і значэньне камітэту ўзаемадапамогі; клясавы склад гарадзкога насельніцтва, віды і ўмовы працы яго ў розных прадпрыемствах, ахова працы; прафсаюзы; значэньне шэфства; рэвалюцыя 1917 году і сялянства; як разумець лёзунг „Саюз рабочых і сялян і лучнасьць гораду з вёскай“.

Спрыяючых умоў для прахаджэньня комплексу „Вёска і горад“ амаль што ня было, бо адсутнічалі канкрэтныя падставы для працы: дзеці, за невялічкім выключэньнем, гораду ня бачылі і з жыцьцём рабочых, апрача сав. гаспадаркі, не знаёмы.

Праводзіўся гэты комплекс шляхам гутарак, чытаньня, пісаньня і лічэньня на адпаведныя тэмы. Сувязь паміж асобнымі галінамі працы хоць і была, але мала было

жыцьцёвасьці. Распрацоўка комплексу заняла 2 тыдні.

З 20-га студзеня да 27-га праводзіўся Ленінскі тыдзень у школе і праца была прыстасавана да гэтага тыдню.

З 27-га студзеня да 7-га лютага заняткі былі дапасованы да перавыбараў сельсавету і перадвыбарчай кампаніі, якая ў той час праводзілася, а таксама зьвернута значная ўвага на набыцьцё тэхнічных звычак чытаньня, пісаньня і лічэньня.

На гэтым і закончылася праца III клясы за першае паўгодзьдзе 1925-26 навуковага году.

У IV клясе вялося прадметнае выкладаньне з нязначным нахілам да комплекснае сыстэмы.

**Буцавіцкі.**

# Мэтадычны ліст аб навучаньні грамаце.

Гукавы мэтад грунтуецца на поглядзе, што кожнае слова ёсьць простая сума асобных гукаў адзінак, якія заўсёды можна ўзяць чыстымі з слова. А ці так гэта з погляду экспэрымэнтальных досьледаў навукі мовазнаўства.

Мовазнаўства кажа, што раскласьці жывое слова на гукі без таго, каб не пашкодзіць ім самім,— нельга. Гук, выдзелены з слова, ёсьць ужо ня той, якім ён быў у слове, г. зн. -у злучэньні з іншымі гукамі. Нават галосныя гукі зьмяняюць сваё вымаўленьне ў залежнасьці ад характару суседніх гукаў, якія патрабуюць тэй ці іншай укладкі ворганаў вымаўленьня. Яшчэ больш прыкметна адбіваецца ўплыў суседніх гукаў на зьмене характару зычных.

Што-ж тычыцца такіх гукаў, як „п“, „т“, „к“ і некаторых іншых, то яны зусім ня могуць быць вымаўлены асобна. Гэтыя, так званыя ўзрыўныя, пры асобным іх вымаўленьні даюць не адзін гук, а гук плюс кароткі выдых.

Адсюль відаць, што жывое, вымаўляемае слова ня можа так падзяляцца на гукі, як напісанае—на літары. Значыць, слова ня ёсьць простая сума асобных гукаў: „Каша“ — ня ёсьць к+а+ш+а. Асобны гук з погляду навуковага мовазнаўства ёсьць проста фікцыя. Калі-ж так, то зусім памылковая, нават, ідэя гукавога мэтаду, які хоча давесьці, што кожнае слова ёсьць сума асобных гукаў, як гукавых адзінак.

І вось, такім чынам, вынікае такое пытаньне, які-ж з сучасных мэтадаў навучаньня чытаньню зьяўляецца адпаведным і дзіцячай псыхіцы і навуковаму мовазнаўству, і наагул, сучаснай школе? Такім мэтадам зьяўляецца мэтад Афанасьева, які ня ёсьць адзіны, пэўны мэтад навучаньня чытаньню, а нешта, скамбінаванае з частак некалькіх навейшых мэтадаў.

Вось галоўныя моманты яго: 1) Размова з дзяцьмі наконт зробленае экскурсіі, альбо іншага даступнага іх разуменьню матар‘ялу. 2) Выбар з размовы сказу з словам, у якім была-бы патрэбная дзеля вывучэньня літара. 3) Малюнак, вычэрпываемы сказам і складаньне („падпісваньне“) пад ім вызначанага слова. 4) „Чытаньне“ усяго гэтага. 5) Артыкуляваньне слова. 6) Замацаваньне гука за тым ці іншым ворганам вымаўленьня і замацаваньне апошняга да таго ці іншага значка—літары. 7) Замацаваньне літары (практыкаваньне з ёй: робяць з палачак, альбо друкуюць. 8) Складаньне з картачак (разразная азбука) вызначанага слова і зварочваньне зноў да малюнку.

Для ілюстрацыі можна прывесьці прыблізную практычную лекцыю на гэтым мэтадзе.

Возьмем, напрыклад, тэму: азна-

ямленьне з літарай „М“.—Ці вялікая ў вас сям'я, Пятрук? — Наша сям'я з пяцёх чалавек. — З каго-ж яна складаецца?—Яна складаецца з таты, мамы, мяне, брата і сястрыцы.—Колькі-ж гадоў тваей сястрыцы?—Маей сястрыцы адзін год. — Ці ўмее гадовае дзіця добра гаварыць, скажы Зьмітрок?—Не, гадовае дзіця ня ўмее добра гаварыць. — А як яно просіць есьці, скажы Янук? — Яно кажа: „Мама, ам“. — Дык як маленькае дзіця просіць есьці, скажы Юрка? — Яно кажа: „мама, ам“.

Зараз, дзеці, я вывешу малюнак: вы добра ўгледзьцеся ў яго і раскажэце, што тут намалёвана: Ну, раскажы, Васіль. — На гэтым малюнку мы бачым хату. У хаце каля стала стаіць мамка і рэжа хлеб. Маленькае дзіця стаіць за сталом і просіць хлеба, працягнуўшы ручку. — А як жа яно просіць хлеба? Кажа яно: мама, дай хлеба? — Не, яно кажа: мама, ам.—Паўтары, Міколка, Ануля.

— Зараз я пастаўлю пад малюнкам слова, якое азначае тое, чаго просіць дзіця ў мамы. Дык якое слова стаіць пад малюнкам? — Ам. Цяпер, дзеці, я буду паказваць указкай на малюнак, і гаварыць, а вы глядзеце і слухайце: дзіця просіць у мамы (паказваю на малюнак) ам (паказваю слова). — Ідзі ты, Янук, пакажы, што на малюнку і пад малюнкам. — Дзіця просіць у мамы ам (прарабляе тое самае, што і настаўнік)—Дзеці, угледзьцеся ў слова—ам. А зараз намалюйце ў сябе ў сшытках тое, што бачыце на дошцы і пастаўце пад сваім малюнкам „ам“ з тых картачак, што ёсьць у вас. Зараз кажы, Вольга, усё тое, што ты намалявала.—Дзіця просіць у мамы ам.

Зараз, дзеці, глядзеце ўважліва, як я буду вымаўляць гэта слова. (Артыкулюю некалькі разоў). —Калі я пачынаю гаварыць гэта слова, дык што робіцца з маім ротам? — Ен шырока расчынен. — Расчынеце самі шырока рот і падайце голас:—а—а—а—а.

Знайдзеце тую літару, якая паказвае, што трэба шырока расчыніць рот і падаць голас.—(Яны павінны знайсьці, бо ўжо знаёміліся з ёю). Цепер паглядзеце зноў, як я буду вымаўляць: Ам. Што рабіцца з маім ротам, камі я канчаю гаварыць слова? — Ен зачынены зусім. А вы чуеце голас? — Чуем. — Зрабеце самі так і падайце голас. М... М... М... М... А хто так робіць? Карова так мыкае. — А вось дзеці, той значок, які паказвае, што трэба зусім зачыніць рот і падаць голас. (Паказваю літару „М“). Знайдзеце яе ў сябе. (Знаходзяць). — Цяпер самі, дзеці, складзеце з літар. А самі прачытайце. (Ідзе практыкаваньне ў чытаньні).

Як відаць з усяго вышэйказанага, мэтад Афанасьева складаецца з частак другіх мэтадаў; выбар слова з сказу і стаўленьне яго пад малюнкам — ёсьць частка амэрыканскага мэтаду (цэлых вобразаў); артыкуляваньне—частка мэтаду Шнызэра, пабудаванага на даных навуковай фанэтыкі і ўпарта адмаўляючага гукавых назваў літар; маляваньне „падпісваньне“ (складаньне з літар разразной азбукі) малюнку—элемэнт з „жывых гукаў“ Шапашнікава.

Пісьма ў пачатку па гэтым мэтадзе няма, як такога.

Баяцца тут няма чаго. Потым, прыблізна ў сярэдзіне азбукі, дзеці без усялякіх перашкод могуць перайсьці і на пісьмовыя літары.

Мэтадам Афанасьева з маленькімі зьменамі, якія прыведзены тут, мы карысталіся ў мінулым годзе ў Магілеўскай Дасьледчай школе. Вынікі атрымаліся добрыя. Гэта падмацавалася і на летніх курсах па перападрыхтоўцы настаўніцтва. Калі будуць довады, што ён немаг-

чым у аднакамплектавай вясковай школе з 4 групамі, то я скажу адно: мэтаду гукавога параіць ні ў якім выпадку немагчыма па вядомых ужо прычынах. Калі што ёсьць новага, самага даступнага нашай пачатковай школе ў сэнсе навучаньня чытаньню, то такі зьяўляецца мэтад Афанасьева. Тыя настаўнікі, якія пажадаюць карыстацца мэтадам Афанасьева, павінны мець, як настольныя, кнігі гэтага мэтадыста: 1) „Методические очерки о преподавании родного языка“, — изд. 1924 г. 2) „Родной язык в трудовой школе“, — изд. 1924 г.

**Магілеўская мэтадычная камісія.**

# З жыцьця беларускага мастацтва.

## „Адгукі Сяродкі“ — М. Талеркі.

Малады беларускі паэта, сын беларускае вёскі Заркі, Прыдруйскае воласьці, Дзьвінскага павету, Мікола Талерка, выпусьціў першы друкаваны на пішучай машынцы, зборнік сваіх вершаў пад назовам „Адгукі Сяродкі“.

Зборнік мае 44 старонкі, фармату 11 sm × 28, і складаецца з 26 вершаў: „Думкі“, „Покліч“, „Прарок“, „Прароку“, „Дзяўчынцы“, „Днее“, „Ня сьпі“, „Наша доля“, „Я чую“, „Беларусу“, „Барцу ў няволі“, „Каханьне“, „Паэту“, „Чаму“, „Мужыку“, „Беларусу“, „Вер у вясну“, „М.“, „Суседзям“, „Мілю“, „Хвіліны каханьня“, „Часопісь“, „Пяцігодка“, „Сфінкс“, „Бабылю“ і „Хвароба“.

Матывы высокаграмадзкія пераплятаюцца ў М. Талеркі ў ягоным зборніку з матывамі асабістых перажываньняў. І ў тых і ў другіх вершах малады паэта шчыра вылівае сваё пачуцьцё і думку. Піша ён заўсёды з натуры, адгукваючыся на запраўдныя рэальныя здарэньні. Элемэнт фантастычнасьці, прыдуманасьці і штучнасьці ў аўтара адсутны. У гэтай шчырасьці пачуцьця і адгукаў на штодзённае жыцьцё галоўная адзнака творчасьці М. Талеркі.

З прыемнасьцю адмячаемо мы выхад гэтага скромнага зборнічка, які робіць новы ўклад у літаратурныя пачынаньні гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі. Шчыра жадаемо аўтару далейшага разьвіцьця ягоных здольнасьцяў, якія ён бязумоўна мае.

**К. Езавітаў.**

## „Птушка Шчасьця“.

У суботу 26-га лютага драматычны гурток беларускіх настаўніцкіх курсаў у Рызе, пад кіраўніцтвам кіраўніка курсаў М. Дзямідава, паставіў 3-х актавую п‘есу Ф. Аляхновіча „Птушка Шчасьця“.

Ня можамо не прывітаць гэтага пачынаньня, якое ўзнаўляе добрую традыцыю І-га выпуску гэтых курсаў. У 1921-22 навучальным годзе, калі настаўніцкія курсы былі ў Дзьвінску, курсанты курсаў, пад кіраўніцтвам сваіх настаўнікаў (найбольш паклаў працы ў гэтым напрамку кіраўнік курсаў Э. Будзько і курсант Камаржынскі), немаль што-тыдня ставілі беларускія спэктаклі, сабіраючы заўсёды поўную залю гледачоў. Апрача матарыяльнае карысьці, якая ішла на падтрымку бяднейшых курсантаў, праца гэтая мела тры іншых вельмі важных вынікі: па-перш, будучыя настаўнікі практыкаваліся ў гульне на сцэне і ў пастаноўцы п‘ес, што надзвычайна важна ўмець кождаму настаўніку, па-другое, курсанты прывучаліся да грамадзкае працы, а па-трэцяе, гэтыя пастаноўкі мелі нацыянальна-усьведамляючае значэньне і добра ўплывалі на падойм нацыянальнае сьвядомасьці і ў саміх курсантаў і ў беларускіх гледачох.

Што да пастаноўкі і выкананьня п‘есы, дык, і гэта зусім зразумела для аматараў, яна прайшла ня зусім гладка. Пачнём з таго, што першы і трэці акт павінны былі адбыцца перад хатай, пры адных і тыхжа дэкарацыях. Гэта аспаўное патрэбаваньне не было выканана і вельмі сапсавала нават самы зьмест п‘есы. Ня можна было III акт ставіць у дэкарацыях іншых, чым І, бо тады пераход „у першабытны стан“ зусім не падкрэсьліваецца. Акторы ўзялі не свае ролі. Кудраўцаў, які вельмі схілён да шаржу, зусім сапсуў ролю Янкі, даўшы нейкі невыразны тып, з якога не зразумееш ці Янка быў зухаваты, хітры мужык-прайдоха, ці ён быў глупы, як пень. У гэтай ролі трэба было даць больш праставатай наіўнасьці, шчырасьці і развагаў у сур‘ёз. Янка — дзіцё вёскі, муж пад ботам жонкі, які адзін толь-

**Новы выдатны беларускі драматург Е. Міровіч — рэжысёр Дзяржаўнага Беларускага Тэатру ў Менску.**



Гр. Міровіч, наш зямляк, родам з Дзьвінску, дзе ён арадзіўся і ўзгадаваўся. Мастацкую сваю кар'еру Міровіч пачаў у старым Пецярбурзе, дзе быў вядомы як аўтар і рэжысёр. Веданьне сцэны, якое, Міровіч мае як рэжысёр, вельмі дапамагае Міровічу-аўтару. Усе ягоныя рэчы надзвычайна пастановачны, выпуклы і жыцьцёва-рэальны. З напісаных ім п'ес, асабліва вядомы, „Кастусь Каліноўскі", „Машэка", „Каваль Ваявода" і „Кар'ера Таварыша Брызгаліпа". Усе яны карыстаюцца ў Радавай Беларусі вялікім посьпехам і можна толькі пашкадаваць, што Дзяржаўны тэатр і Дзяржаўнае Выдавецтва да гэтага часу робіць з гэтых п'есаў манаполію Дзяржаўнага тэатру і не выдрукавалі іх для карыстаньня ў беларускіх правінцыяльных і аматорскіх тэатрах.

кі раз у жыцьцю, пасьля цудоўнага сну адважыўся пайсьці жонцы наперакор, ды і то праз некалькі хвілінаў здаўся на яе міласьць. Вельмі непрыемна было чуць ад гэтага артысты шэраг русыцызмаў у мове.

Доўгі, які іграў Лясупа, ня меў магчымасьці разьвярнуць свае здольнасьці ў гэткай маленькай ролі, з якой ён аднак справіўся добра.

Даволі добра выйшла Маланка (Казлоўская), варта было-б быць крыху больш рухлівай.

П. Вайноўскі папрацаваў над сваім Жыдам і ў І акце быў зусім на мейсцу, але ў ІІ і ІІІ акце адчувалася слабае веданьне ролі. Танец русалак быў крыху сонны для раю. Асабліва няўдала была задумана тая палова гэтага танцу, у якой кола русалак прыймае рожныя пластычныя позы, седзючы на падлозе. Сцэна ў зале нізкая, а таму, пачынаючы з 10-га раду, з-за галоў папярэдніх радоў, заднія рады нічога ня бачуць, устаюць і перашкаджаюць. Апрача таго, рухі гэтага мейсца ў танцы, разьлічаныя на тое, каб паказаць **пласьціку і лінію прыгожае жаночае постаці**, павінны выконывацца дзяўчатамі, аканчальна ўжо разьвітымі з боку фізычнага. Калі-ж гэтага няма, **дык лінію і форму** трэба замяніць пласьцікай руху, выбудовай прыгожых груп і прыгожых рухаў.

Агульнае ўражаньне асталося ад „Птушкі Шчасьця" такое, што яна магла-б быць выканана тымі-ж сіламі значна лепш, калі-б было больш адведзена часу грунтоўнай падрыхтоўцы.

Пасьля „Птушкі Шчасьця" вучаніцы ІІ-й Рыскай беларускай пачатковай школы, пад кіраўніцтвам курсанткі Карнавухавай, удала выканалі вельмі вясёлы дзіцячы танец, які дужа спадабаўся ўсім прысутным.

Заля была паўнюсенька. Прыемна было ў часе антрактаў спаткаць беларускіх рабочых, выхадцаў з беларускіх малазямельных вёсак Латгаліі, Ілукшчыны і Нова-Аляксандраўшчыны.

Пасьля спэктаклю адбыліся танцы, у часе якіх была разыграна рэчавая латарэя.

**К. Езавітаў.**

**Усе грамадзяне, якія спачуваюць справе Беларускага Нацыянальнага Тэатру ў Латвіі, павінны прыняць удзел у арганізацыі новага беларускага таварыства „Беларускі Тэатр у Латвіі". За ўсемі спраўкамі зьвяртайцеся ў рэдакцыю.**

# З пастановак Беларускага Дзяржаўн. тэатру у Менску



7-мы абраз з п'есы Міровіча «Кастусь Каліноўскі». Пастаноўка самога аўтара.



3-ці акт п'есы Мольера «Мешчанін у шляхецтве». Пастаноўка рэжысёра Міровіча.

## Падручнікі для беларускіх школ у Латвіі.

Беларускі Аддзел пры Міністэрстве Асьветы закупіў для беларускіх пачатковых школ у Латвіі партыю падручнікаў К. Езавітава „Беларуская Школа“ ч. І.

Закупленыя падручнікі гэтымі днямі рассылаюцца па школьных бібліатэках ва ўсе беларускія школы і будуць выдавацца ў часовае карыстаньне бяднейшым вучням, якія ня маюць сродкаў набыць падручнік у ўласнасьць.

Для больш заможнейшых вучняў настаўнікі беларускае мовы і кіраўнікі школы могуць выпісываць кнігі за грошы безпасярэдне з „Беларускага Выдавецтва“ (Рыга, Гертрудзенская, 80).

## Добры прыклад для нашых настаунікау.

У чэхаў народны вучыцель можа з праўдзівай гордасьцю казаць аб сваёй прафэсыі, бо ён вучыць не адных дзяцей, а ўсіх жыхароў у сваёй ваколіцы, — вучыць народ. Кожную нядзелю, ці іншае сьвята, у школе, або ў народным доме вучыцялі чытаюць лакцыі для сталых людзей і знаёмяць іх з усялякімі навукамі, з усім вялікім сьветам. Вучыцель асьвятляе незразумалае для цёмнага чалавека цяперашняе жыцьцё людзей і народаў. Гэта праўдзівы сьветач. За такую работу павінны ўзяцца народныя настаўнікі і ў нас.

У нас гэта можа стацца толькі тады, калі сяляне дружна ўсе, як адзін, даб‘юцца дазволу на беларускую школу ў сваёй мясцовасьці, а вучыць будзе свой настаўнік беларус.

## Народны дом і бібліатэка-чытальня.

(в. Пяшчаньнікі. Беластоцкага пав.).

Галоўнаю Упраўаю Т-ва Беларускае Школы ў Вільні адчынены Народны Дом і бібліатэка-чытальня. Кожды вечар зьбіраецца да 50 асоб, каб пачытаць, або паслухаць якуюсь цікавую кніжку ці газэту. Культурная праца не абмінае і дзяцей. Каб даць ім магчымасьць вучыцца ў роднай мове, сяляне выпісалі з беларускае кнігарні падручнікаў і на кождых 3—5 дзяцей прыходзіць граматнейшы сябра і памагае ім вучыцца.

Грамадзяне! Бярыце прыклад з Пяшчанкаўцаў.

## Новая беларуская часопісь.

Мэтодыстская Місыя ў Варшаве, якая ўжо выдала шэраг выданьняў на беларускай мове, прыступіла цяперака да выданьня беларускае часопісі „Дух і Праўда“.

У студзеню гэтага году выйшаў № 1-шы гэтае часопікі. З яго даведываемся аб той вельмі каштоўнай і важнай дапамозе, якую робяць мэтадысты беларускаму руху ў акупаванай палякамі Заходняй Беларусі.

## Падзел людзей паводле мовы.

| | |
|---|---|
| Кітайская мова | 370 міліёнаў. |
| Індусы | 132 „ |
| Ангельская мова | 125 „ |
| Нямецкая „ | 72 „ |
| Гішпанская „ | 70 „ |
| Расейская „ | 60 „ |
| Францусская „ | 50 „ |
| Японская „ | 48 „ |
| Малайская „ | 36 „ |
| Італьянская „ | 34 „ |
| Украінская „ | 32 „ |
| Польская мова | 22 мільёны |
| Беларуская „ | 12 „ |

Менш за нас гаворацць людзі на мовах: румынскай, турэцкаў, баўгарскай, сэрбскай, чэскай, фінскай, літоўскай, латыскай, эстонскай і шмат інш., дык старайцеся, каб наша мова, хутчэй заняла належнае ёй месца ў культурным сьвеце.

Рэдактар-выдавец **К. Езавітаў.**

**Па ўсіх справах да рэдакцыі «Беларуская Школа ў Латвіі» зьвяртацца па адрасу: Рыга, Гертрудзенская вуліца, № 80. Кошт асобнага нумару 20 сант.**

Тыпаграфія Г. Іге, Рыга, Гертрудзінская вул., № 80.